**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 26 (794) 25 чэрвеня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**Валянціна, родная сястра Васіля Быкава перад мікрафонам: "Прыязджайце ў Бычкі, Васіль Быкаў вельмі любіў сустракацца з людзьмі!" Злева – папулярны тэлевядоўца Юры Жыгамонт ("Падарожжы дылетанта").** Фота Зм. Лупача.
*Працяг на стар. 4*



ISSN 2077-8023



Віцебскі раён

# Знайсці вакансію – праблема

■ Станіслаў Раманчук.

**Ужо відавочна, што прадстаячыяпрэзідэнцкія выбары восенню ў краіне пройдуць на фоне сітуацыі на рынку працы, якая значна пагоршылася.**

З кожным месяцам стала прыбаўляцца зарэгістраваных беспрацоўных у гарадах Віцебшчыны. Сумнiўнае лідарства з занятасцю насельніцтва трывала захапіў абласны цэнтр, дзе сёлета колькасць людзей, застаўшыхся без працы, вырасла больш чым у 2 разы. У пачатку лета прынялі канчатковае рашэнне аб ліквідацыі мясцовага вінаробчага завода. Падобны лёс, хутчэй усяго, чакае неўзабаве шматпакутную панчошна-трыкатажную фабрыку "КІМ" і яшчэ некалькі прадпрыемстваў. Невыпадкова цяпер у гарадскім цэнтры занятасці штодзень ставяць на ўлік па 50-60 гараджан, якія не могуць нідзе знайсці прымяненне сваім сілам. За няпоўных паўгода ў Віцебску статус беспрацоўнага атрымалі звыш 2,7 тысяч чалавек, што складае 1,6 % ад колькасці працаздольнага насельніцтва. Сталай працы ў горадзе не маюць ужо каля 4 тысяч віцяблян. Прыгэтым з-за крызісу патрэбнасць у кадрах работнікаў у абласным цэнтры знізілася амаль у 3 разы і на адну свабодную вакансію конкурс стаў, як у прэстыжным ВНУ – звыш 4-х чалавек на месца. Аднак і працадаўцы патрабуюць толькі высокакваліфікаваных вопытных рабочых і спецыялістаў. Спецыялісты папярэджваюць, што і ў далейшым сітуацыя з працаў–ладакаваннем лепшай не стане, бо няпростае становішча ў многіх вытворцаў. Таму больш трэці беспрацоўных віцяблян шукаюць сабе новую працу ўжо больш года. Дарэчы, яны толькі два разы маюць права адмовіцца ад вакансій, якія прапаноўваюцца, і штомесяц павінны па некалькі дзён адпрацаваць на грамадскіх работах, каб атрымоўваць сціплую дапамогу. Акрамя абласнога цэнтра найбольш праблем на рынку працы яшчэ і ў Оршы з Полацкам.

Браслаўскі раён

# Дзе тонка, там і рвецца

■ Кастусь Александровіч

**Спакон вякоў для хлебаробаў пачатак лета - важнейшы час сенакосу і нарыхтоўкі якасных кармоў для зімоўкі жывёлы.**

Аднак сёлета паўсюдна ў вобласці, у тым ліку і ў Браслаўскім раёне, да касьбы траў прыступілі на амаль тыдзень пазней папярэдніх гадоў з-за асаблівасцей сёлетняй вясны. Другая палова мая была даволі халоднай, і травы раслі не так, як хацелася б. У азёрным краі, як і ў суседзяў, лепшыя гаспадаркі яшчэ некалькі гадоў назад прыступілі да атрымання якасных вітамізаваных кармоў у сучаснай стрэйч-плёнцы, якія выдатна захоўваюцца і не губляюць сваіх спажыўных рэчываў працяглы час. На Браслаўшчыне ўслед за "Агра-Відзамі" набылі прычапныя прэс-падборшчыкі-абмотчыкі рулонаў мясцовы райаграсервіс, "Маяк Браслаўскі" і "Друйскі". Сёлета, каб не губляць каштоўны час, тут плённа заняліся вытворчай кааперацыяй на сенажацях. У прыватнасці, адзін з лепшых спецыялістаў аграсервіса Уладзімір Багданаў выехаў у камандзіроўку ў Відзы, дзе за некалькі дзён зарулоніў амаль 600 тон якаснага корму. У спрактыкаванага работніка кожны дзень атрымоўвалася ўпакоўваць па 200 і болей сенажу ў рулонах. На жаль, у раёне, як і ў суседзяў, калі травы стаялі ў самым росквіце, узнікла праблема недахопу паліва і не касілі два дні. На разліковых рахунках большасці гаспадарак грошай малавата, не ўдаецца стварыць запасы ГЗМ, весці на тэхналогіі кругласутачную трамбоўку траншэй, што ў далейшым можа дрэнна адбіцца на якасці кармоў.

Полацкі раён

# Калі работа не ў радасць

■ Чэслаў Якубовіч.

**Услед за самым старажытным горадам Беларусі Полацкам па існуючай традыцыі свой 57-гадовы дзень нараджэння адзначыў урачыста яго маладзейшы сусед Наваполацк.**

Асаблiва ў нафтаградзе цяпер актыўна імкнецца асесці моладзь і невыпадкова там за некалькі гадоў прыбавілася насельніцтва яшчэ на каля трох тысяч маленькіх навапалачан. Аднак не ва ўсіх жыхароў краю ў пачатку лета быў прыўзняты настрой, паколькі зноў 11 мясцовых прадпрыемстваў і арганізацый затрымалі заработную плату сваім работнікам. Як і раней, найбольшая запазычанасць узнікла ў васьмі полацкіх сельгаспрадпрыемстваў. Таксама ў лік даўжнікоў цяпер рэгулярна сталі трапляць прадстаўнікі будаўнічай галіны. Аб'ектаў для іх становіцца ўсё меней, за выкананыя работы заказчыкі таксама расплочваюцца са спазненнем. Не размічыўся ў тэрмін са сваім калектывам будаўніча-мантажны трэст № 22. Аналагічныя параблемы ўзніклі і ў Наваполацкага завода тэхналагічных металаканструкцый з-за крызісу ў будаўнічай галіне. Спіс даўжнікоў па зарплаце папоўніла і полацкае прадпрыемства ААТ "Отделочник-28". Яшчэ адзін гігант будіндустрыі, філіял будаўніча-мантажнага трэста № 16 у Наваполацку, праўда, змог вярнуцца да поўнага графіку працы на тыдні. Але заробкі ў радавых рабочых упалі і яны цяпер зарабляюць толькі ад 2 да 3 млн. рублёў. Цікава, што пры гэтым няма масавых звальненняў, бо людзі ведаюць, што паўсюдна няпростая сітуацыя. Нават на самым багатым нафтаперапрацоўчым заводзе ААТ "Нафтан" працаўнікі сталі атрымоўваць меней за сваю працу.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 25.06.15 | | | | Пятніца 26.06.15 | | | | Субота 27.06.15 | | | | Нядзеля 28.06.15 | | | | Пан. 29.06. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +12 | +16 | +19 | +16 | +9 | +15 | +16 | +14 | +11 | +13 | +18 | +16 | +12 | +16 | +20 | +17 | +12 | +17 | +20 |
| Ціск | 749 | 750 | 749 | 749 | 748 | 747 | 745 | 743 | 741 | 742 | 744 | 744 | 745 | 746 | 746 | 747 | 747 | 747 | 747 |
| Вільготнасць | 92 | 79 | 59 | 66 | 87 | 70 | 66 | 74 | 92 | 74 | 53 | 70 | 86 | 70 | 51 | 68 | 91 | 81 | 70 |
| Вецер м/сек | 3 Пд-З | 1 Пн | 4 З | 2 Пн-З | 1 Пд-З | 2 Пн-З | 4 Пн-З | 3 Пн | 2 Пн-З | 4 Пн-З | 5 Пн-З | 1 Пн | 1 Пн | 3 Пн-У | 4 Пн | 1 Пн | 1 З | 2 Пн-З | 6 Пн-З |

Аб самым надзённым

# СУР'ЁЗНЫЯ ПРЫЧЫНЫ ПРЫМУСІЛІ ЎЛАДЫ БЕЛАРУСІ ПРАВОДЗІЦЬ СЁЛЕТА ВЫБАРЫ РАНЕЙ НАМЕЧАНЫХ ТЭРМІНАЎ




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Пакуль жа старт новай выбарчай кампаніі ў Беларусі не за гарамі і яе асаблівасць у тым, што яна супадае з летам, з перыядам масавых водпускаў. Гэты фактар ускладніць працу апанентаў главы дзяржавы па збору неабходных 100 тысяч подпісаў, неабходных для рэгістрацыі іх кандыдатаў.**

У нашай прадказальнай і спакойнай у цэлым краіне апошнім часам беларусаў сталі закранаць розныя сюрпрызы, звязаныя з перыядычным абвалам курсу айчыннага рубля, ростам цэн і з правядзеннем масавых кадравых перастановак у вышэйшых эшалонах улады. Сёлета грамадства ўжо быццам настроілася, што чарговыя прэзідэнцкія выбары пройдуць у сярэдзіне лістапада. І раптам гэта дата змянілася пасля нядаўняй сустрэчы беларускага лідара з нязменным старшынёй ЦВК Беларусі Лідзіяй Ярмошынай. На падставе таго, каб летам не турбаваць дэпутатаў парламента і не склікаць іх на пазачарговую сесію, прапанавалі правесці гэтыя выбары ў нядзелю 11 кастрычніка.

Дарэчы, кіраўнік дзяржавы яшчэ раней назваў такую выбарчую кампанію "экзаменом перед народом". Вось і атрымоўваецца, што ў гэтым годзе падобнае электаральнае выпрабаванне згодна Канстытуцыі адбудзецца крыху раней, амаль што на паўтара месяца. У такім рэчышчы, хто не забыўся, у нас ужо быў падобны вопыт. У далёкім ужо 2006 годзе ўвогуле прэзідэнцкія выбары перанеслі з лета на сакавік, паколькі тады быў абраны ад дэмакратычных сіл адзіны кандыдат, былы віцэ-мэр Гродна і навукоўца Аляксандр Мілінкевіч. Ён даволі хутка стаў набіраць папулярнасць, праўда, на выбары пайшоў і былы рэктар БДУ Аляксандр Казулін, які потым атрымаў турэмны тэрмін і, напэўна, пашкадаваў, што вылучыўся ў вялікую палітыку.

Сёлета дасведчаныя палітолагі таксама звярнулі ўвагу на тое, што сталі публічна гаварыць і аб магчымасці правядзення другога тура выбараў. Раней аб гэтым увогуле не ўзгадвалася, а суайчыннікі нават прывыклі да рэгулярных "элегантных перамог" першага свайго Прэзідэнта. А. Лукашэнка і на гэты раз упэўнены, што "всё должно быть достойно… мы никому не будем запрещать наблюдать за выборами, в том числе и со стороны". Аднак злыя языкі сталі нашэптваць, што менавіта незайздросная становішча беларускай эканомікі прымушае крыху раней праводзіць гэтыя выбары, яшчэ да пачатку ацяпляльнага сезона.

На самой справе эканамічная сітуацыя сёлета няпростая. Калі летась тры разы павышаліся памеры пенсій, то сёлета гавораць чыноўнікі, што пакуль такой магчымасці няма і нават за некалькі месяцаў да выбараў. Такое адчуванне, што і на ўзроўні кіраўніцтва Беларусі вельмі занепакоены развіццём падзей. Не выключана, што глыбокай восенню эканамічны крызіс у нас яшчэ болей можа ўзмацніцца, бо пайшлі прапановы павысіць памер дапамогі па беспрацоўі да ўзроўню бюджэту пражыткова мінімуму (1,5 млн.) з цяперашніх 350 тысяч рублёў у месяц. У мінулым такога не было, каб сотні беларускіх прадпрыемстваў і арганізацый затрымлівалі выдачу зарплаты сваім работнікам.

Асабліва на Віцебшчыне і Міншчыне шмат такіх суб'ектаў гаспадарання, дзе запазычанасць доўжыцца і па некалькі месяцаў, замест грошай выдаюць людзям прадукты харчавання па спісах у магазінах. Нават гіганты айчыннай індустрыі сталі працаваць па няпоўным графіку і спыняць на нейкі час свае галоўныя канвееры. Адзінае і, безумоўна, правільнае рашэнне ўлад Беларусі, што яны не сталі напаўпоўваць эканоміку пустымі грашыма, як гэта было ў 2010 годзе. Тады валявым шляхам дабіліся быццам заробкаў у суме 500 долараў, а потым у наступным годзе быў страшны абвал і гіганцкі рост цэн.

Цяпер кіраўнік краіны ў сваіх прамовах стаў казаць і аб магчымым наступленні "худших времён". Такая перспектыва, сапраўды, існуе з-за крызіснай сітуацыі ў Расіі, дзе на працягу двух гадоў прагназуецца падзенне ВУП. Пакуль жа старт новай выбарчай кампаніі ў Беларусі не за гарамі і яе асаблівасць у тым, што яна супадае з летам, з перыядам масавых водпускаў. Гэты фактар ускладніць працу апанентаў главы дзяржавы па збору неабходных 100 тысяч подпісаў, неабходных для рэгістрацыі іх кандыдатаў.

Можна не сумнявацца, што выбарчая кампанія не паўплывае на спакойнае жыццё ў краіне, паколькі летам усім лягчэй пракармiцца і жывецца камфортней, чым у халодны перыяд года. Суседняя Расія таксама публічна вуснамі свайго пасла ў Мінску адназначна выказалася, каго яна падтрымае на выбарах. Як падаецца, зыход прадстаячых выбараў таксама большасць народа асабліва не хвалюе, ён прадсказальны, паколькі апазіцыя ў Беларусі, як ніколі раней, цяпер слабая і раздробленая. У тых персон, якія заяўляюць аб сваіх прэзідэнцкіх амбіцыях, элементарна не хапае неабходных фінансавых рэсурсаў, актывістаў і памочнікаў, каб подпісы збіраць і актыўна ўключыцца ў кампанію. У любым выпадку выбары адбудуцца, жыццё прадоўжыцца, а абноўленаму ўраду Беларусі прыйдзецца прадстаячай зімой вырашаць яшчэ больш складаныя задачы, чым камандзе М. Мясніковіча летась.

## Дзень за днём

**Рост цэн з пачатку года перавысіў 6,5 %, а даўгі прадпрыемстваў выраслі яшчэ на чвэрць і дасягнулі 50,5 трлн. рублёў. Затрымкі па выплатах зарплаты ў Беларусі напрыканцы вясны выраслі на 45,5 %. Сваім 76 тысячам работнікам не заплацілі за працу 444 прадпрыемствы і арганізацыі. ЦВК прапанаваў правесці прэзідэнцкія выбары ў нядзелю 11 кастрычніка. Беларусь забараніла рээкспарт рыбы з Латвіі і Эстоніі. Прозвішчы беларускіх наркаманаў будуць занесены ў адзіную базу дадзеных. Украінскі тэлеканал Ukraine Tomorrow летам змогуць глядзець і беларусы.**

# Важнейшыя навіны свету

**Англія.** Эксперты Каралеўскага інстытута міжнародных адносін папярэдзілі, што ўкраінскі кафлікт за халоднай вайной прывядзе да сапраўднай вайны РФ з дзяржавамі ЕС.

**ЗША.** Прэзідэнт Б. Абама папярэдзіў Пуціна, што той сваёй вар'яцкай палітыкай па адраджэнні савецкага мінулага рызыкуе разбурыць эканоміку сваёй краіны.

**Украіна.** Прэзідэнт П. Парашэнка заявіў аб беспрэцэдэнтна высокай пагрозе ўварвання войск Расіі на ўкраінскую тэрыторыю, зноў запахла вялікай крывапралітнай вайной.

**Германія.** Старшыня ЕС Дональд Туск пацвердзіў, што падстаў для зняцця санкцый супраць Расіі за яе агрэсію ў Данбасе няма, санкцыі могуць стаць яшчэ больш жорсткімі.

**Расія.** У адзін дзень з-за тэхнічных няспраўнасцей расійская авіяцыя страціла яшчэ два ваенныя самалёты новых мадыфікацый – знішчальнік МіГ-29 і бамбардзіроўшчык Су-34.

**Турцыя.** Пасля выбараў правячая партыя "Справядлівасці і развіцця" страціла парламенцкую большасць і не зможа пашырыць паўнамоцтвы прэзідэнта Т. Эрдагана.

**Англія.** Глава МЗС краіны Ф. Хэмманд папярэдзіў аб магчымым размяшчэнні ў Брытаніі амерыканскіх ядзерных ракет сярэдняй дальнасці з-за ўзрослай актыўнасці войск Расіі.

**Эстонія.** Краіна стала сусветным лідарам па развіцці лічбавых паслуг, праз Інтэрнэт людзі зрабілі ўжо 218 млн. электронных плацяжоў, так галасуе 32 % выбаршчыкаў.

**Польшча.** Урад павысіў палякам мінімальную зарплату да 450 еўра, яна стала большай за беларускую ў 3,7 разы, літоўцы з 1 ліпеня павысяць мінімалку да 325 еўра ў месяц.

**Расія.** Ніхто на Захадзе ваяваць з РФ не будзе, як заявіў адвакат М. Фейгін, але яе ізаляцыя эканамічная і геапалітычная ўзмацніцца, што прывядзе да змены ўлады Пуціна.

**Расія.** Канцэрн "Газпрам" пацвердзіў намеры спыніць поўнасцю транзіт газу праз Украіну ў Еўропу пасля 2019 года, вясной ЕС абвінаваціў рускіх у завышэнні цэн для спажыўцоў.

**Фінляндыя.** Кампанія Microsoft купіла ў Nokia вытворчасць телефонаў і пачала выпуск бюджэтных мабільнікаў 2-га пакалення з радыёпрыёмнікам FM па цане 20 $ за штуку.

**ЗША.** Урачы двух медцэнтраў пасьпяхова зрабілі хвораму 55-гадоваму пацыенту першую ў свеце аперацыю па перасадцы часткі чэрапу і скуры іншага чалавека.

**Расія.** Ва ўмовах крызісу аўтазавод у Калузе ўслед за звальненнем 100 супрацоўнікаў на 2,5 месяцы спыніў зборку легкавых аўтамабіляў Citroen C4 і Peugeot-408.

**Германія.** Уласнага карэспандэнта НТБ у Еўропе К. Гольдэнцвайга прымусілі звольніцца з тэлеканала пасля праўдзівага інтэрв'ю нямецкім калегам аб жахлівай сітуацыі ў Расіі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Калі кіраўніцтва краіны, як папярэдзіў экс-глава Нацбанка С. Багданкевіч, не знойдзе знешнюю фінансавую падпітку, то Беларусь чакае новы абвал валютнага курсу.

**Маладзечна.** З-за затрымак заробкаў на заводзе металаканструкцый, на якім занята 1130 працуючых, рабочыя адмовіліся выхадзіць на працу, прадукцыю перастала купляць РФ.

**Гомель.** На граніцы з Украінай прайшлі маштабныя камандна-штабныя вучэнні тэрытарыяльных войск і органаў тэратарыяльнай абароны вобласці, сіл спецаперацый.

**Мінск.** Упраўляючая Фондам сацыяльнай абароны насельніцтва Людміла Бачыла пацвердзіла, што магчымасцей для павышэння пенсій у Беларусі пакуль няма.

**Брэст.** Дзяржкаммаёмасць выставіў на продаж дзяржпакет акцый кампаніі "Брэсцкае піва", аднак яе страты перавысілі 76,5 млрд. рублёў, што адпужвае інвестараў.

**Магілёў.** Папа Рымскі Францыск прызначыў дапаможным біскупам па вобласці 41-гадовага ўраджэнца Смаргоні Аляксандра Яшэўскага, вікарыя адной з парафій Мінска.

**Рэчыца.** Падчас канфлікту паміж рыбакамі на беразе ракі Днепр п'яная жанчына-рыбалоў укусіла судмедэксперта за перадплечча, калі іх стала забіраць міліцыя.

**Радашковічы.** Паблізу горада ў вёсцы Казекава выдзеліі зямельны ўчастак плошчай 81,7 гектары для стварэння новых сталічных могілак, бо дзеючых толькі 2, а 17 – закрыты.

**Гомель.** Дырэкцыя ААТ "Гомсельмаш" зноў перавяла свой 10-тысячны калектыў на графік працы 4 дні на тыдзень, прастойваюць таксама і заводы імя Кірава, ЗЛіН.

**Калодзішчы.** У мясцовага 30-гадовага прадпрымальніка, які гандляваў на тэрыторыі выставачнага цэнтра "Аквабел" канфіскавалі партыю абутку на 0,5 мільярда рублёў.

**Камянец.** У пасёлку Белавежскі з 2 тысячамі жыхароў праваслаўныя моцна абурыліся, калі пабач з іх крыжам на ўездзе ў мястэчка каталіцкія вернікі ўстанавілі свой крыж.

**Жыткавічы.** Міліцыя адшукала і затрымала 23-гадовую настаўніцу са Столінскага раёна, якая на чужым аўто BMW X5 збіла насмерць ноччу пешахода і знікла з месца ДТЗ.

**Мінск.** Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч выказаў занепакоенасць, што ў краіне мала прадметаў выкладаецца на беларускай мове.

**Гродна.** Ва ўзросце 50 гадоў памёр ксёндз парафіі св. Марыі паблізу абласнога цэнтра Ян Занеўскі, ён цяжка хварэў, але да апошняга працаваў з вернікамі і моладдзю.

**Мінск.** Пасля 5 гадоў рэканструкцыі ў свой абноўлены будынак вярнуўся тэатр юнага гледача, там стала вельмі ўтульна, тэатр займеў сучаснае тэхнічнае абсталяванне сцэны.

# Творчыя работнікі змогуць атрымаць сертыфікаты, каб іх не лічылі дармаедамі



■ TUT.BY

**Аляксандр Лукашэнка 19 чэрвеня падпісаў указ № 251, які дапаўняе пералік адміністрацыйных працэдур, што ажыццяўляюцца дзяржаўнымі органамі і іншымі арганізацыямі па заявах грамадзян, зацверджаны ўказам ад 26 красавіка 2010 г. № 200.**

Як паведамляе прэс-служба прэзідэнта, пералік дапаўняецца такой працэдурай, як выдача прафесійнага сертыфіката творчага работніка. У адпаведнасці з дэкрэтам прэзідэнта ад 2 красавіка 2015 № 3 «Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства» грамадзянін прызнаецца ўдзельнічаючым у фінансаванні дзяржаўных расходаў у перыяд ажыццяўлення творчай дзейнасці ў якасці творчага работніка. Гэты статус пацвярджаецца творчым саюзам, членам якога ён з'яўляецца, або прафесійным сертыфікатам, што выдаюцца ў адпаведнасці з заканадаўствам.

У мэтах забеспячэння права грамадзяніна на пацвярджэнне статусу творчага работніка і прызнання яго асобай, якія ўдзельнічаюць у фінансаванні дзяржаўных расходаў, указам устанаўліваецца парадак выдачы адпаведнага сертыфіката. Ён выдаецца бясплатна экспертнай камісіяй па пацвярджэнні статусу творчага работніка пры Міністэрстве культуры ў месячны тэрмін з дня падачы заявы і дзейнічае на працягу пяці гадоў.

Указам прадугледжана таксама, што дзяржаўныя архіўныя ўстановы і тэрытарыяльныя архівы мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў будуць выдаваць архіўныя даведкі і іншыя дакументы, якія змяшчаюць архіўную інфармацыю, на працягу 15 дзён з дня падачы заявы (пры неабходнасці дадатковага вывучэння і праверкі - на працягу месяца), сказана ў каментары прэс-службы прэзідэнта.

Калі запыт тычыцца маёмасных і спадчынных правоў грамадзян, то за прадастаўленне архіўнай інфармацыі спаганяецца плата ў памеры ад 0,5 да адной базавай велічыні. Выдача архіўнай інфармацыі па іншых запытах сацыяльна-прававога характару ажыццяўляецца бясплатна.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На правядзенне XXIV фестывалю мастацтваў "Славянскі базар" сёлета выдзелілі з розных крыніц 3,6 мільёна долараў, фестываль акупляе сябе толькі на 80 %.

**Гарадок.** Фонд "Віцебскаблмаёмасць" выставіў на продаж закінутыя будынкі былой школы-інтэрната для дзяцей з асаблівасцямі развіцця ля гарпасёлка Езярышча.

**Віцебск.** Нават пасля арышту летась свайго дырэктара калектыў бройлернай фабрыкі "Ганна" спрацаваў выдатна і стаў другім у вобласці па аб'ёме прыбытку (150 мільярдаў рублёў.).

**Глыбокае.** З міжнародней спецыялізаванай выставы "Белагра-2015" прадстаўнікі малочнакансервавага і мясакамбіната прывезлі дамоў шэраг узнагарод за выдатную якасць прадукцыі.

**Сянно.** Галоўнага бухгалтара аднаго з прадпрыемстваў раёна пакаралі 6 гадамі турмы за сістэматычныя крадзяжы з падведамасных магазінаў выручкі ў суме 343 млн. рублёў.

**Паставы.** Камітэт Дзяржкантролю перадаў у Следчы камітэт матэрыялы па факце самавольнай разборкі прыватнай фірмай былых савецкіх ракетных установак ля Цешалава

**Лепель.** Па дзяржпраграме "Чыстая вада" спецыялісты ААТ "БелБурСпецБуд" пачалі пракладку труб новага вадаправода пад дном мясцовага возера і ракі Эсса ў раённым цэнтры.

**Браслаў.** Да 950-годдзя горада аднавілі брукаваную вуліцу сярод дамоў старой пабудовы, добраўпарадкавалі дадатковую зону адпачынку на гарадскім пляжы.

**Віцебск.** Вечарам каля 23.00 гадзін на пажары ў мясцовым трохпавярховым доме-інтэрнаце для састарэлых і інвалідаў загінулі двое пацыентаў, эвакуіравалі 47 чалавек.

**Полацк.** Міліцыя затрымала траіх маладых хлопцаў, якія вечарам скралі і потым забілі 29-гадовага гараджаніна, а цела закапалі на беразе аднаго з азёраў раёна.

**Талачын.** Раніцай на 515-м км трасы М 1 у выніку ДТЗ з польскай фуры DAF выпалі і загарэліся 240 балонаў мантажнай пены, ніхто з людзей не пацярпеў.

**Орша.** Пад вечар у аднапакаёвай кватэры непрацуючага аршанца выбухнула газавая сумесь, пацярпелага даставілі ў бальніцу з апёкамі 40 % участкаў цела.

**Віцебск.** Раніцай на Смаленшчыне загінуў у ДТЗ 42-гадовы віцяблянін, вадзіцель цягача, калі на яго выскачыў на аўто жыхар Разаншчыны з 4 пасажырамі, ніхто не выжыў.

**Полацк.** Пад дахам Сафійскага сабора з цудоўнай акустыкай прайшоў канцэрт мужчынскага хора паліфанічных спеваў "Me Rustveli" грузінскага манастыра св. Міхаіла.

**Глыбокае.** На месцы былога стадыёна турмы ля мікрараёна Паўночны пры падтрымцы ЕС да восені ў горадзе пабудуюць лыжаролерную трасу за 28 тысяч еўра са штучнымі горкамі

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## “Вольнае Глыбокае” і “Каталіцкі Веснік” атрымалі дыпломы за папулярызацыю беларускай мовы ў перыядычных выданнях




20 чэрвеня ў Бычках, на радзіме Васіля Быкава, па выніках абласнога агляду-конкурсу перыядычнага друку “З БЕЛАРУСКІМ СЛОВАМ” па ўжыванні беларускай мовы сярод раённых выданняў у 2014 годзе былі ўганараваныя шэраг перыядычных выданняў Віцебскай вобласці. Дзяржаўныя раённыя газеты: з Мёраў, Ушачаў, Паставаў, Докшыцаў, Шаркоўшчыны, Браслава і Шуміліна. Да гэтага ліку адносяцца і дзве недзяржаўныя газеты “Вольнае Глыбокае” і “Каталіцкі Веснік”, якія абедзве выдаюцца ў Глыбокім.

Усе згаданыя вышэй выданні атрымалі дыпломы і поўныя выданні твораў Васіля Быкава для сваіх рэдакцыйных бібліятэк.

**На здымку:** Бычкі, 20.06.2015. **Насця Адамовіч** (унучка рэдактара “Вольнага Глыбокага”) і **Зміцер Лупач** (тэхнічны рэдактар “Каталіцкага Весніка”) – з узнагародамі.

# На 91-я ўгодкі Васіля Быкава прэмію за “Свабоду думкі” ўручылі Нілу Гілевічу

■ **Уладзімір Скрабатун**

Традыцыйна, штогод, на чарговыя ўгодкі народзінаў вядомага беларускага пісьменніка Васіля Быкава, досыць прадстаўнічыя дэлегацыі з нашага рэгіёну – Паставы, Шаркоўшчына, Глыбокае – наведваюцца ў вёску Бычкі, на Ушаччыне. Не выключэннем былі і сёлетнія 91-я ўгодкі.

Да таго ж сюды вельмі ахвотна прыязджаюць і госці з Мінска, Полацка, Віцебска, а таксама самыя блізкія землякі пісьменніка з Ушаччыны.

На гэтым мерапрыемстве, якое сёлета адбылося 20 чэрвеня, штогод чарговаму намінанту ўручаецца прэмія “За свабоду думкі”.

Прэмія «За свабоду думкі» імя Васіля Быкава заснаваная лідарам Руху «За Свабоду» Аляксандрам Мілінкевічам у 2008 годзе. Ідэя паўстала пасля атрымання Мілінкевічам прэміі «За свабоду думкі» імя Андрэя Сахарава, якую ўручае Еўрапарламент.

Прэміяй «За свабоду думкі» ўганароўваюцца асобы, якія выявілі сябе грамадскай і творчай дзейнасцю на выгоду Беларусі і Волі.

Лаўрэатамі прэміі мінулых гадоў станавіліся літаратары Рыгор Барадулін, Уладзімір Арлоў, палітык-літаратар Павел Севярынец, мастак Алесь Пушкін, краязнаўца Ада Райчонак, палітык-паэт Уладзімір Някляеў, музыка Лявон Вольскі і краязнаўца Аляксандр Белакоз, музыка Зміцер Вайцюшкевіч, мастак Алесь Марачкін, акцёр Віктар Шалкевіч.

Цяперашняе мерапрыемства цудоўна правёў папулярны тэлевядоўца Юры Жыгамонт, які добра вядомы тэлегледачам сваімі “Падарожжамі дылетанта”.

Сёлета прэмія “За свабоду думкі” была прысуджаная Нілу Гілевічу, апошняму з народных паэтаў Беларусі.

Сярод шматлікіх прамоўцаў самае эмацыйнае на сёлетнім свяце – выступленне Міхася Скоблы, якое лішні раз падцвердзіла, наколькі актуальнымі ў любыя часы могуць быць таленавітыя словы прарокаў:

*– Я хацеў бы паказаць незвычайную кнігу, якую атрымаў летась з Украіны. Гэта кніга перакладаў прыпавесцяў Васіля Быкава “Байки світові”. Пераклаў іх Дмытро Шчарбіна, які жыве ў Крывым Рогу і ніколі не быў у Беларусі. Выйшла кніга ў Луганску, на ўсходзе Украіны. І адбылося гэта фактычна тады, калі там ужо ішла вайна.*

*Украіна мае ў жыцці Быкава таямнічае значэнне. У 1944-м годзе з Украіны ў Бычкі прыйшла пахаронка. Атрымліваецца, Быкаў як бы сімвалічна загінуў за Украіну. Бо за яго спіною была ўкраінская вёска Вялікая Севярынка. Там дасюль стаіць помнік, на якім пазначана імя лейтэнанта Быкава: Васіль Уладзіміравіч не палічыў патрэбным карэктаваць надпіс. Там па сённяшні дзень працуе музей, які стаў першым прыжыццёвым музеем пісьменніка. Калі ва Украіне дасюль выходзяць ягоныя кнігі, значыць, Быкаў і сёння там патрэбны. І яго прыпавесці актуальныя.*

Прысутных, якіх сабралося пад дзве сотні, парадаваў цудоўны канцэрт у выкананні Тацяны Матафонавай і Лявона Вольскага.

Закончылася свята сяброўскай вячэрай у двары колішняй школы, дзе некалі вучыўся Васіль Быкаў. Канцэртную праграму працягвалі і іншыя артысты.



**Мастак Алесь Марачкін прэзентуе афіцыйны знак прэміі, якая будзе ўручаная народнаму паэту Беларусі Нілу Гілевічу.** (Ніл Сымонавіч па стане здароўя не змог прыехаць). *Фота Зм. Лупача.*



У двары роднай хаты Васіля Быкава. Выступае паэт і журналіст Міхась Скобла, у яго руках – кніга Васіля Быкава на ўкраінскай мове, якая нядаўна выдадзеная ў прыфрантавым Луганску. *Фота Ул. Скрабатуна.*

# Спраўдзілі: грыбы ёсць!

■ **Уладзімір Скрабатун**

Дачуліся мы яшчэ тыдні тры таму, што на нядзельным рынку адна цётка прадавала падасінавікі. Цэлую скрыню прынесла! Дзе збірала? А хто яе ведае! Сцвярджала – ля Дзеркаўшчыны.

Мы б паехалі ў лес і збіраліся, але засушыла і надоўга! А тут, у нядзелю, дождждык прайшоў. І зноў даходзяць чуткі, што нейкая іншая цётка назбірала лісічак. Верыць-няверыць? Мо з халадзільніка мінулагодняя дастала?

— Едзем?– пытае дачка. Як на мой розум - яшчэ ранавата, хай бы яшчэ адзін дождждык прайшоў.

– Ладна, паехалі! Звычай, у такі перыяд году, едзем на Пастаўшчыну, раён Станелевічаў. Ужо калі ёсць дзе першыя лісічкі, дык там!

Першыя крокі ў лес паказалі: нейкія грыбы, усё ж, ёсць, хоць і “сабачыя”. Патрапіў адразу пад ногі падгруздак, але такія грыбы не збіраю. Каб сыраежка – узяў. О! Далей – пень з несапраўднымі апенькамі. Могуць жа быць і летнія сапраўдныя? Ага! Так, ёсць! Праўда, усяго два грыбочкі на пні. Дзесятак крокаў далей – зноў вялікі пень, трайціна якога ў апеньках: купка маладзенькіх зусім, іншая побач, старэйшых, але таксама прыдатных. Пашанцавала! Калі больш не натраплю, то і гэтага хопіць на адкрыццё сезона!

Спраўджана: грыбы ў лесе ёсць! Рэдактар “ВГ” хлусіць не будзе (Фотафакт – злева)! Праўда, лісічак мы так і не знайшлі. Ніводнай! Няма!

А дачцэ, наогул, не пашанцавала – нічога не напаткала.

Затое аўтара гэтых радкоў уразіў відарыс! Поўныя, пад завязку, мяхі бярозавага соку пакінутыя ў лесе. Налічыў чатыры, а мо й болей было далей у гушчары. Забыліся? Чэрвень на двары!

Пасмакаваць аўтар не адважыўся, ды й кубка не было з сабой. Мо ён за тры месяцы і забрадзіў!



**Пень з летнімі апенькамі.** *Фота Ул. Скрабатуна, 22.06.2015.*



**А пра поўныя мяхі з бярозавым сокам забыліся! Цікава, мо забрадзіў?** *Фота Ул. Скрабатуна, 22.06.2015.*

# Увага! Прапаў чалавек!

**Паважаныя гараджане і жыхары раёна!**



Глыбоцкім раённым аддзелам Следчага камітэта расследуецца крымінальная справа па факце невядомага знікнення Шуфляка Генадзя Фёдаравіча, 1950/03/16 года нараджэння, ураджэнца в. Васьковічы Глыбоцкага раёна, які пражываў па адрасе: Глыбоцкі раён, в. Кульгаі, вул. Садовая, д.1, які 15 траўня 2015 года пайшоў з дому і да цяперашняга часу яго месцазнаходжанне невядомае.

Прыкметы: на выгляд 65 гадоў, рост 175 см, хударлявага целаскладу, вочы шэрыя, нос прамы, валасы прамыя, цёмна-русыя, форма прычоскі – кароткая стрыжка, памер абутку – 43.

Быў апрануты: байка чорнага колеру, паўсуконныя штаны, боты на ліпучках чорнага колеру.

Асаблівыя прыкметы: вялікі выступ надброўных дуг.

Пры сабе меў пашпарт на яго імя. Грамадзян, якія маюць якую-небудзь інфармацыю пра месцазнаходжанне Шуфляка Г.Ф., просьба паведаміць па тэлефоне: 8 (02156) 5-04-07, або па тэл. 102 у бліжэйшы аддзел міліцыі.

***М.К. Патапахін**, следчы СА Глыбоцкага РАСК, лейтэнант юстыцыі*

# Правільнае харчаванне – аснова добрага здароўя і даўгалецця

**Харчаванне – найважнейшая фізіялагічная патрэба чалавека. Харчаванне забяспечвае жыццядзейнасць арганізма, павышае яго супрацьіўляльнасць, прадухіляе развіццё хвароб. Яно павінна быць рэгулярным, паўнавартасным, збалансаваным па наборы жыццёванеабходных рэчываў: бялкоў, тлушчаў, вугляводаў, вітамінаў, макра- і мікраэлементаў.**

■ **А.Е. Лысая**, *памочнік урача-гігіеніста*




Удзённы рацыён уключайце разнастайныя прадукты расліннага і жывёльнага паходжання, перш за ўсё гэта гародніна, садавіна, алей, малочныя прадукты, рыба, мяса.

Спажывайце больш ежы, якая змяшчае клятчатку (гародніна, садавіна, сухафрукты, цэльнае збожжа). Старайцеся з’ядаць гародніны і садавіны не менш за 300 – 400 г у дзень. Скарацiце спажыванне тлушчу. Выконвайце таксама асноўныя правілы харчавання:

■ галоўнае не пераядаць; пазбягайце залішняй вагі як асноўнага фактару захворванняў; вялікі вучоны, акадэмік А. Багамолец сцвярджаў, што «чалавек павінен выходзіць з-за стала, адчуваючы лёгкае пачуццё голаду»;

■ прымаць ежу трэба не спяшаючыся; акрамя чыста эстэтычнага патрабавання, ёсць у гэтай рэкамендацыі і біяхімічная прычына; справа ў тым, што сігнал у мозг аб надыходзе пачуцця насычэння прыходзіць не са страўніка, а з крыві, і абумоўлена яна ўзроўнем цукру крыві; засваяльнасць жа цукру з харчовых прадуктаў адбываецца адносна павольней, чым напаўненне страўніка; калі чалавек прымае ежу адносна хутка, сігнал з крыві спазняецца і ствараюцца ўмовы для прыёму залішняй колькасці ежы;

■ не эканомце час на прыгатаванні ежы;

■ менш выкарыстоўвайце ў харчаванні паўфабрыкаты, кансервы;

■ ежа павінна прыносіць задавальненне; абедзенны стол – гэта святое месца, прыгожы абрус, сервіс выкарыстоўвайце не толькі для гасцей, але і для сваёй сям’і;

■ не ешце без апетыту; прымайце ежу, толькі калі вы сапраўды прагаладаліся;

■ не ешце ў стане эмацыйнага ўзбуджэння;

■ штодня ўжывайце дастатковую колькасць вадкасці (да 2,5л);

■ выбірайце свежыя і натуральныя прадукты;

■ падтрымлівайце ідэальную вагу;

■ пазбягайце ўжывання вялікай колькасці тлустых прадуктаў, цукру, солі;

■ менш звяртайце ўвагу на рэкламу заморскіх далікатэсаў, прадукты, якія выраслі на роднай зямлі, значна больш карысныя;

■ не рыхтуйце ежу на некалькі дзён;

■ рыхтуйце ежу з радасцю;

■ захоўвайце рэжым харчавання.

**Навукоўцы сцвярджаюць: важна, што мы ямо, але не менш важна, як мы ямо.**




# Каб не было бяды

**Штогод адбываюцца няшчасныя выпадкі пры спробе пракрасціся ўнутр энергетычных аб’ектаў (трансфарматарных падстанцый, размеркавальных прылад), пры парушэнні правілаў аховы электрычных сетак (паветраных і кабельных ліній), якія як правіла заканчваюцца няшчаснымі выпадкамі.**

■ **А.А. Бекіш**, *інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА “Энерганагляд”*

Так пры спробе крадзяжу правадоў з дзеючай ВЛ-0,4кВ 7 траўня гэтага года загінуў жыхар вёскі Латкова Шумілінскага раёна, 1996 года нараджэння.

Наступны няшчасны выпадак адбыўся 7 чэрвеня гэтага года з вартаўніком сярэдняй школы №2 г. Мядзел, 1954 г.н. Пры аглядзе месца здарэння высветлена, што ў ГКТП узламаны ўнутраныя замкі РУ-0,4 і 10 кВ, збітыя навясныя замкі, у РУ-0,4кВ дэмантавана ўсё абсталяванне, у РУ-10 кВ дэмантаваная ашыноўка трансфарматара №1, знятыя з завесаў адны дзверы. Загінулы знаходзіўся звонку, каля дзвярэй трансфарматарнай падстанцыі «Насосная школы №2»

Каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў ад дзеяння электрычнага току, неабходна памятаць і выконваць правілы электрабяспекі:

■ забараняецца адчыняць дзверы размеркавальных шчытоў, сілавых шаф, трансфарматарных падстанцый;

■ забараняецца заходзіць за агароджы трансфарматарных падстанцый, у памяшканні падстанцый і на будаўнічыя пляцоўкі, дзе могуць прымяняцца часовыя электраправодкі;

■ У выніку наступстваў прыродных з’яў могуць адбывацца абрывы або правісанні паветраных ліній электраперадач, таму забараняецца набліжацца да любых правіслых або абарваных правадоў бліжэй за 8 метраў.

Паважаныя грамадзяне, калі вы ўбачыце адчыненыя дзверы трансфарматарных падстанцый, электрашчытавых, неадкладна паведаміце пра гэта ў дыспетчарскую службу Глыбоцкіх раённых электрасетак па тэлефоне 2-62-41 (144) або ў Глыбоцкае міжраённае аддзяленне «Энерганагляду» па тэлефоне 2-80-43.



# Падрыхтоўка цеплавых сетак да працы ў асенне-зімовы перыяд

**Адным з важных пытанняў для суб’ектаў гаспадарання з’яўляецца пытанне падрыхтоўкі надзейнай працы сістэм цеплазабеспячэння і сістэм цеплаcпажывання ў зімовы час.**

■ **Е.Н. Ішуцін**, *інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА “Энерганагляд”*

Аналізуючы падрыхтоўку да ацяпляльнага сезона 2015/2016 года прадпрыемствамі і арганізацыямі Глыбоцкага раёна хочацца адзначыць недастатковае наданне ўвагі пытанню рамонту вонкавых цеплавых сетак.

Да цеплавых сетак прад’яўляюцца наступныя тэхнічныя патрабаванні:

■ у месцах пракладкі цеплавых сетак узвядзенне будынкаў, складаванне, пасадка дрэў і шматгадовых кустоў на адлегласці менш за 2 метры ад праекцыі на паверхню зямлі краю будаўнічай канструкцыі цеплавой сеткі або абалонкі ізаляцыі трубаправодаў пры бесканальнай пракладцы забараняецца;

■ знешняя паверхня трубаправодаў і металічных канструкцый цеплавых сетак (апоры, мачты, эстакады і г.д.) павінна быць абаронена ўстойлівымі антыкаразійнымі пакрыццямі;

■ трубаправоды цеплавых сетак, арматура, кампенсатары, фланцавыя злучэнні і апоры труб павінны быць пакрытыя цеплавой ізаляцыяй у адпаведнасці з патрабаваннямі дзеючых ТНПА;

■ цеплавая ізаляцыя фланцавых злучэнняў, арматуры, участкаў трубаправодаў, якія падвяргаюцца перыядычнаму кантролю, павінна быць здымнай. Покрыўны пласт павінен быць воданепранікальным і не перашкаджаць высыханню ўвільготненай цеплавой ізаляцыі.

Так, да прыкладу:

■ цеплавая сетка ад кацельні «СПТВ» УП ЖКГ Глыбоцкага раёна ў раёне СШ №2 зарасла дрэвамі, ўчастак трубаправода саслізнуў з нерухомай апоры, што прывяло да яго дэфармацыі; таксама на дадзеным участку трубаправода маюцца парушэнні покрыўнага пласта, што прыводзіць да далейшага разбурэння цеплавой ізаляцыі;

■ апоры цеплавой сеткі ААТ «Глыбоцкі МКК» у прыватным жылым сектары месцамі скрыўлены, дзесці адбылося частковае разбурэннежалезабетонных апор.

Энергазабяспячальным арганізацыям і прадпрыемствам неабходна прыняць меры па падрыхтоўцы цеплавых сетак для працы ў асеннезімовы перыяд, зрабіць абыходы цеплавых сетак і ліквідаваць выяўленыя парушэнні да пачатку ацяпляльнага сезона.



## Віншаванкі

### Жанну і Кацю Лупач

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Жадаем з радаснай нагоды
Здароўе мець, са шчасцем быць,
Не знаць бяды, жадаем згоды,
Да ста гадоў Вам зычым жыць.
Няхай заўсёды Бог абараняе
Ад зла, хваробы і журбы
І ласку шчодра пасылае
Сёння, заўтра і заўжды.

*Святлана, Зміцер і Валянцін*

### Вераніку Бахір

**Віншую з Днём нараджэння!**

Жадаю, каб шчасце табе ўсміхалася,
А мара любая аднойчы здзяйснялася.
Вяселле, і радасць, і добры настрой
Хай крочаць заўсёды з табой!

*Ад родных*

# Улоў невялікі, а вось адказнасць сур'ёзная



**Захаванне нашай прыроды, яе багаццяў, флоры і фаўны, барацьба з браканьерствам і парушальнікамі прыродаахоўнага заканадаўства з'яўляецца адным з асноўных накірункаў у рабоце Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.**

■ **А.В. Протас,** *начальнік Глыбоцкай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Штотыдзень па ўсёй краіне супрацоўнікі інспекцыі затрымліваюць дзясяткі браканьераў, адбіраюць кіламетры браканьерскіх сетак, дзясяткі адзінак агнястрэльнай зброі, канфіскуюць велізарную колькасць незаконна нарыхтаванай драўніны. Уся гэтая праца сістэматычна асвятляецца ў сродках масавай інфармацыі, размешчаная на інтэрнэт-старонцы Дзяржінспекцыі. Работнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі таксама штотыдзень затрымліваюць парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства. За чэрвень 2015 года інспектарамі выяўлена больш за два дзясяткі грубых парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, з іх два, якія падпадаюць пад дзеянне Крымінальнага Кодэкса.

Так, 19 чэрвеня каля сямі гадзін раніцы інспектарамі на возеры Чачалі затрыманыя двое непрацуючых жыхароў раёна, якія з дапамогай сеткі ажыццяўлялі незаконную здабычу рыбы. Улоў браканьераў быў невялікі, усяго 12 асобін розных відаў рыбы, але адказнасць за браканьерства вельмі сур'ёзная, штраф у памеры ад 20 да 50 базавых велічынь і пакрыццё прычыненай шкоды больш за 9 млн. рублёў. Няцяжка падлічыць, у што абыдзецца рыба: 9 мільёнаў кампенсацыі шкоды плюс мінімальны штраф 3 млн. 600 тысяч рублёў.

Аднак, праца міжраённай інспекцыі заключаецца не толькі ў спыненні фактаў браканьерства, але і ў правядзенні з насельніцтвам прафілактычнай работы, тлумачэнні дзеючага заканадаўства і адказнасці за яго парушэнне.

З надыходам лета і, адпаведна, гарачага надвор'я востра паўстала пытанне аб папярэджанні прыродных пажараў. Рашэннем Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта ў дадзены момант забаронена наведванне лясоў, тарфянікаў. Толькі за чэрвень бягучага года ў вобласці адбылося пяць пажараў, з якіх два на тарфяніках і тры ў лясах. За парушэнне забароны на наведванне лясоў, развядзенне вогнішчаў, правілаў супрацьпажарнай бяспекі прадугледжана адміністрацыйная адказнасць.

**Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжраённай інспекцыі: 8-02156-28-670, маб.: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**

# Бедных у Польшчы не чакаюць

**Пры ўездзе ў Польшчу неабходна мець пры сабе 500 злотых.**

Нават калі беларусы едуць на адзін дзень у суседнюю краіну, павінны мець пры сабе суму ў 500 злотых. Яшчэ нядаўна для гэтага хапіла б і 300 злотых.

Як патлумачыў «Радыё Рацыя» прадстаўнік Польскай памежнай службы ў Кузніцы Рафал Вольскі, гэта звязана з уступленнем у сілу новага палажэння аб іншаземцах, якое ўрэгулюе пытанне колькасці сродкаў, якія павінен мець іншаземец пры перасячэнні мяжы.

"Распараджэнне прадугледжвае 300 злотых для ўезду ў Польшчу. Дадаткова грамадзяне Беларусі абавязаныя мець 200 злотых, або зваротны квіток, або 200 злотых для набыцця зваротнага квітка ў краіну пражывання", – распавёў ён.

Па рашэнні міністра замежных спраў Польшчы такія патрабаванні аднолькавыя для ўсіх катэгорый грамадзян.

Як ужо паведамлялася раней, палякі ўводзяць біяметрычныя візы для беларусаў. Ужо з 23 чэрвеня генеральныя консульства Польшчы ў Беларусі пачалі іх выдаваць.



# Збіраць ягады камбайнамі – незаконна!

**Падыходзіць да завяршэння першы месяц лета, стаіць цёплае надвор'е, у лясах спеюць чарніцы і надыходзіць перыяд іх актыўнага збору насельніцтвам, а таму супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі лічаць неабходным нагадаць грамадзянам пра захаванне правілаў прыродаахоўнага і ляснога заканадаўства.**

■ **А.Г. Абрамчык,** *дзяржаўны інспектар Глыбоцкай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Глыбоцкі і Пастаўскі раёны славяцца не толькі велізарнай колькасцю вішняў, але і чарніцаў, брусніцаў, журавінаў. Тысячы нашых грамадзян, гасцей з іншых раёнаў напаўняюць лес, калі спеюць ягады чарніц, малін, брусніц, журавін, растуць грыбы, людзі карыстаюцца дарамі лесу ў поўным аб'ёме, але не заўсёды законнымі спосабамі.

Штогод рашэннем Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта усталёўваюцца тэрміны збору ягад журавін і брусніц, ягад чарніц, малін, бункі можна збіраць у любы час, але толькі дазволенымі спосабамі і сродкамі, г.зн. рукамі.

Грамадзяне, якія парушаюць названыя тэрміны збору ягад брусніц і журавін альбо якія ажыццяўляюць збор ягад забароненымі метадамі і прыстасаваннямі (грабянцы, камбайны і г.д.), будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці па ч.2 арт.15.26 КоАП Рэспублікі Беларусь, які прадугледжвае адказнасць у выглядзе папярэджання або штрафу ў памеры да 20 базавых велічынь, з пакрыццём прычыненай шкоды, за кожны кілаграм сабраных ягад 2,2 базавыя велічыні або 396 тысяч рублёў. Для спынення парушэнняў правілаў збору ягад у раёне будуць створаны мабільныя групы з ліку супрацоўнікаў міжраённай інспекцыі, лясной аховы, міліцыі. Усе парушальнікі будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету чарговы раз заклікае грамадзян да захавання прыродаахоўнага заканадаўства.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі дзякуюць грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў працы і неабыякавыя да захавання нашай прыроды.

**Тэлефоны «гарачай лініі»: 8-02156-2-86-70, маб.: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**



# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»



## ПАНЯДЗЕЛАК, 29 чэрвеня



**06.00** Доброе утро, Беларусь!
**07.00** Новости.
**07.05** Новости экономики.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Доброе утро, Беларусь!
**08.00** Новости.
**08.05** Новости экономики.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Доброе утро, Беларусь!
**08.50** Слово Митрополита Тадеуша Кондрусевича на День святых апостолов Петра и Павла.
**09.00** Новости.
**09.10** Главный эфир.
**10.05** **«Не женское дело»** (Россия).
**11.00** 90 секунд.
**11.05** **«Маша»**
**12.00** Новости.
**13.00** 90 секунд.
**13.10** **«Племяшка»**. 1-я и 2-я серии.
**15.00** Новости.
**15.15** Новости региона.
**15.35** **«Племяшка»** . 3-я и 4-я, заключ., серии.
**16.00** 90 секунд.
**17.35** Белорусское времечко.
**18.40** Новости региона.
**19.00** Новости.
**19.20** Арена.
**19.40** Зона Х.
**20.00** **«Не женское дело»** (Россия).
**21.00** Панорама.
**21.40** Форум с Д.Бочковым.
**22.40** **«След»**
**00.10** Зона Х.
**00.30** Новости.
**00.45** День спорта.



**06.00**, **08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Фазенда».
**11.55** «Модный приговор».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Мужское/Женское».
**14.10** «Наедине со всеми».
**15.05** «Время покажет».
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20** «Время покажет». Продолжение.
**16.50** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет. «Джульбарс и Дина. Солдаты службы «Д».
**19.00** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Дело принципа».
**22.15** «Танцуй!» Объявлениепобедителя.
**00.45** «Вечерний Ургант».
**01.25** Ночные новости.



**07.00** Телеутро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** **«Диверсант. Конец войны»**
**10.05** Телебарометр.
**10.35** Азбука вкуса.
**11.10** Научное шоу профессора Открывашкина.
**12.00** Понять и обезвредить.
**12.30** **«Крепкий орешек»** (США).
**14.45** Криминальный боевик **«Крепкий орешек 2»** (США).
**16.50** **«Диверсант. Конец войны»**
**17.55** **«Отель «Вавилон»** Великобритания.
**19.10** **«Не родись красивой»**
**21.00** Реальный мир.
**21.30** Телебарометр.
**21.35** КЕНО.
**21.40** «Экстрасенсы-детективы».
**22.35** **«Кости»** (США).
**23.30** **«Как я встретил вашу маму»** (США).
**23.55** **«Быть человеком»**
**00.55** **«Отель «Вавилон»**



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.25** «Большой завтрак»
**10.05** «Дальние родственники».
**10.30** «24 часа».
**10.40** **«Солдаты 6».** Сериал.
**11.35** «Семейные драмы».
**12.30** «Не ври мне!».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Эликсир молодости».
**14.50** «Дорогая передача».
**15.00** «Чистая работа».
**15.50** «Другая страна». «Там, где Европа встречается с Азией».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Большой город».
**17.25** «Минщина».
**17.35** «Званый ужин».
**18.35** «Самые шокирующие гипотезы»: «Эксперимент Земля».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ спорт».
**20.15** «Военная тайна с Игорем Прокопенко».
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ спорт».
**23.00** «Неделя спорта».
**23.30** **«Комедиант».**
**01.20** «Док.проект»: «Великие тайны древних сокровищ».



**07.00** **Каханне ля поплаву**, тэлесерыял
**07.50** **Mad Men. Утрапёныя II**, серыял
**08.40** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча
**09.05** Ізгоі, д/ф
**10.00** Невядомая Беларусь. Невядомая вайна 1654–1667 гг. Крывавы патоп, д/ф
**10.40** Назад у будучыню
**10.50** Гісторыя пад знакам Пагоні
**11.05** Загадкі беларускай гісторыі. Жыццё і смерць Рамана Скірмунта
**11.20** Мова нанова. Спорт
**11.35** Над Нёмнам
**11.55** **Скрадзеныя вочы**, гіст. драма
**16.00** **Mad Men. Утрапёныя II**, серыял
**16.45** Наша Родина, д/ф
**18.25** Размовы эксперта
**18.45** Побач з намі
**19.00** Назад у будучыню
**19.10** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19.20** Бяссонная плынь, д/ф
**20.00** Студыя «Белсат»
**21.00** Аб'ектыў
**21.25** 54 %
**21.50** Надзея Саўчанка. Наша Надзея, д/ф
**22.40** **Скрадзеныя вочы**, гіст. драма
**00.25** Студыя «Белсат»

